# Голас Радзімы

3 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 2000 рублёў.

№ 48
(2606)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі
Бацькаўшчыны. Выдаецца з 1955 г.


НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

## Дзмітрый ЛІХАЧОЎ:

# ТРЭБА НЕ ТОЛЬКІ ЗАХОЎВАЦЬ СПАДЧЫНУ, АЛЕ І КАРЫСТАЦЦА ЁЮ

*У 1986 годзе, калі Беларусь, Украіна і Расія святкавалі юбілей выдатнага сярэдневяковага літаратурнага твора "Слова аб палку Ігаравым", вядомы беларускі рэжысёр Віктар Шавялевіч працаваў над стварэннем дакументальнага фільма "Дарогамі "Слова аб палку Ігаравым". Мне ў той час, як археолагу, давялося працаваць у Мінску, на раскопках старажытнага горада на Нямізе, якраз у тым месцы, дзе і адбылася знакамітая бітва паміж дружынамі полацкага князя Усяслава Чарадзея і кіеўскімі князямі Яраславічамі. Тады адбылося маё знаёмства з Віктарам Шавялевічам. А крыху пазней праз яго — і з акадэмікам Дзмітрыем Ліхачовым.*

*Віктар Шавялевіч зняў з акадэмікам Ліхачовым цыкл дакументальных праграм "Пісьмы аб добрым і прыгожым". Потым акадэмік прыняў удзел у фільме "Дарогамі "Слова аб палку Ігаравым", пазней — яшчэ ў двух фільмах "Да вас, сучаснікі мае", да якіх і я меў дачыненне ў якасці сцэнарыста. Апошнія два фільмы былі прысвечаны нашай гісторы... кім выдатным постацям, як Рагнеда, Ефрасіння Пол...кая, Усяслаў Чарадзей і Кірыла Тураўскі. З тых часоў і завязалася нашае сяброўства з Дзмітрыем Сяргеевічам. Ён неаднойчы дапамагаў нам у арганізацыі здымак у музеях і архівах розных гарадоў Расіі, даваў кансультацыі. Менавіта дзякуючы яго падтрымцы, нашай здымачнай групе давялося зняць арыгінал Радзівілаўскага летапісу і унікальны абраз Божай Маці Адзігітрыі Эфескай, які быў у свой час па... ны Ефрасінні Полацкай.*

*Сёлета на Беларусі намаганнямі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", беларускага праваслаўнага Экзархата і дзяржавы быў адноўлены, дакладней, створаны вобраз Святога Крыжа Ефрасінні Полацкай. І мы з Віктарам Шавялевічам папрасілі ў Дзмітрыя Ліхачова аб сустрэчы, каб ён пракаменціраваў гэтую неардынарную для нашай краіны з'яву. Натуральна, размова пайшла і пра многае іншае. Наша гутарка з акадэмікам Ліхачовым адбылася ў Санкт-Пецярбургу, у інстытуце рускай літаратуры "Пушкінскі Дом".*

**— Беларусаў шмат па ўсім свеце. Усе разам мы аднавілі Крыж Ефрасінні Полацкай. Зараз ідзе аднаўленне і полацкіх храмаў. Беларусы не выпадкова абралі сваёй пакравіцелькаю Ефрасінню Полацкую, бо яна, апрача іншага, была і асветніцаю. Крыж Ефрасінні, у першую чаргу, безумоўна, з'яўляецца святыняй царкоўнаю, але як вы, Дзмітрый Сяргеевіч, лічыце, ці можа ён быць нечым, што аб'ядноўвае, у высокім сэнсе, і народ!**

— Безумоўна! Кожная ідэя, кожны пачатак патрабуе свайго ўвасаблення ў нечым. Таму матэрыяльныя святыні, як, скажам, мошчы, цудатворныя абразы, крыжы і многія іншыя сімвалы, звязаны з духоўным жыццём чалавека. Нельга проста ў прастору маліцца, трэба неяк уяўляць сабе Бога. Ёсць вельмі добрая, і я люблю яе, малітва "Цару нябеснаму". Там прысутнічае гэты матыў, што дух Святы ўсюды, Ён усеісны. Усеіснасць жа і патрабуе сімвала, увасаблення. І Крыж у гэтых адносінах заняў першае месца.

А ворагі хрысціянства свае сімвалы, ордэны будуюць на скажэнні Крыжа. Свастыка, напрыклад, — тыповае скажэнне Крыжа, чые пераламаныя канцы звернуты ў нейкі круцельны рух, нейкі механізм. Гэта жахлівая рэч. І, да слова, гэта ўсё пачалося яшчэ ў часы Напалеона. Напалеон быў не толькі стваральнікам Кодэкса, будаўніком Парыжа і г. д., ён быў яшчэ і злым пачаткам, таму што ўвасабляў сабою згубны, ваяўнічы пачатак. Тады Мальційскі Крыж меў чатыры канцы, а ён зрабіў на яго аснове пяціканцовы ордэн, гэта значыць, вывараціў свядома.

**— Але пачаткова Крыж і свастыка, у тым ліку, — індаеўрапейскія салярна-сонечныя сімвалы...**

— Справа ў тым, што дакладна гэта вызначыць цяжка, бо прыдумалі такое сцвярджэнне прыхільнікі "таго" пачатку. Зло заўсёды хаваецца, прыкідваецца дабром. Таму і тут многа розных форм, у меандры, напрыклад. Але спроба апраўдаць фашысцкі знак да дабра не вядзе, бо гэта ўсё-такі не Крыж. А калі не Крыж, значыць — анцікрыж.

**— Дзмітрый Сяргеевіч, згадваючы нататкі, дзе вы цытуеце А. Міцкевіча, што ад зла нельга хавацца ў цемру. Як вы лічыце, мы правільна робім, што ідзем па шляху аднаўлення святынь!**

— Гэта самае галоўнае! Бо, калі не будзе духоўнага пачатку, не будзе маральнасці, мы распадзёмся канчаткова. Трэба ўхапіцца за нешта, каб не патануць у моры зла.

**— Існуе меркаванне, што на**

(Заканчэнне на 4-й стар.).

РАДАВОД

# ГУЧНАЕ „Я" РОДУ ЛІПСКІХ



*Уладзімір ЛІПСКІ з генеалагічнай картай прозвішча Ліпскія.*

● **Алена ЛЯШКЕВІЧ.**

"Хто я?" Гэтае пытанне задаў аднойчы самому сабе вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Ліпскі, не падазраючы нават, што ў пошуках адказу ён напіша цэлую кнігу аб генеалагічным дрэве Ліпскіх. Яна мае назву "Я: праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод" і выпушчана нядаўна ў свет выдавецтвам "Беларусь".

Прынамсі, кніга стала нагодай для арганізацыі першых генеалагічных чытанняў пра род Ліпскіх, якія прайшлі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Каля сотні чалавек, аб'яднаных адзіным прозвішчам і агульнымі радаводнымі каранямі, але ў большай частцы да гэтага незнаёмыя паміж сабой, сабраліся ў Мінску. У беларускую сталіц... з'ехаліся Ліпскія не толькі з у... ткоў краіны, але і з-за межаў Беларусі. Для многіх генеалагічныя звесткі сталі нечаканым адкрыццём і адным з наймацнейшых узрушэнняў. А прадстаўнікі іншых родаў, якія прысутнічалі на гэтым унікальны... мерапрыемстве, якое ў рэсп...ліцы праводзілася ўпершыню, шчыра зайздросцілі Ліпскім.

— Пяць гадоў таму я ўпершыню абмакнуў пяро, з чаго і пачалося непасрэднае напісанне кнігі, — кажа Уладзімір Ліпскі. — Але сама перадгісторыя мае глыбокія карані. Калісьці вельмі даўно я ўзяў тоўсты сшытак, напісаў на ім "Я" і пачаў уносіць туды ўсе звесткі пра сваякоў. Знаходзіў радню, пазначаў дні нараджэння, адрасы — стаў у сям'і гэткім даведачным бюро. Потым пачаў шукаць інфармацыю пра людзей, якія таксама насілі прозвішча Ліпскі, але блізкімі сваякамі не былі. І чым больш я дакранаўся да гэтага, тым большае жаданне даследавання мяне ахоплівала. Праз нейкі час я перастаў абмяжоўвацца блізкімі сваякамі і задумаў аб'яднаць усіх Ліпскіх у адно цэлае.

На дзівацкую па тых часах задуму Ліпскага адгукнулася нямала людзей. Пісьменнік накіраваў запыты амаль ва ўсе райвыканкомы Беларусі. У адказ яму даслалі спісы Ліпскіх, якія пражывалі ў адпаведных мясцовасцях краіны. У раённых газетах па просьбе У. Ліпскага

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ПАШТОЎКА



BIELARUSSIAN NEWS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BIELORRUSIA

# Тыдзень: Міжнародны агляд. Хроніка падзей.

● **Юрась ДОМНІЧ.**

## ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР У РОЛІ ДЫПЛАМАТА

Мінулы тыдзень быў найбольш насычаным і напружаным для прэм'ер-міністра Сяргея Лінга. Старшыня Савета Міністраў Беларусі 20-21 лістапада прадстаўляў краіну на саміце кіраўнікоў урадаў дзяржаў Цэнтральнай Еўрапейскай Ініцыятывы (ЦЕІ) у Заграбе (Харватыя), а 26 лістапада ўзяў удзел у пасяджэнні Савета кіраўнікоў урадаў краін-удзельніц СНД, якое прайшло ў Маскве.

Несумненна, абодва форумы маюць вялікае значэнне для Беларусі і для беларускіх уладаў, у прыватнасці. Першы — гэта яшчэ адзін крок насустрач заходнім партнёрам, другі — спроба ажыўлення інтэграцыйных працэсаў на прасторы былога СССР. Беларусь стала ўдзельніцай ЦЕІ толькі ў 1996 годзе. Прычынай гэтага было тое, што ў межах ЦЕІ распрацоўваюцца эканамічныя праекты, удзел у якіх неабходны і Беларусі. Так, напрыклад, у Заграбе ішла гаворка пра стварэнне пятага панеўрапейскага транспартнага калідора Венецыя — Будапешт — Львоў, які будзе праходзіць і па тэрыторыі Беларусі. Па прычыне гэтага наша краіна можа разлічваць на атрыманне крэдытных рэсурсаў у міжнародных фінансавых арганізацыях. Тое ж самае тычыцца і другога транспартнага калідора Берлін — Масква. Разам з гэтым чакаецца рэалізацыя сумесных праектаў у межах ЦЕІ ў галіне гандлю, пераадолення наступстваў ад аварыі на ЧАЭС, адукацыі.

Знаходжанне С. Лінга ў Заграбе таксама суправаджалася двухбаковымі сустрэчамі з прэм'ер-міністрамі Харватыі, Босніі і Герцагавіны, Украіны. Напрыклад, характэрнай з'яўляецца гутарка С. Лінга з яго харвацкім калегам Златка Мецешам. Прэм'еры абмеркавалі магчымасці двухбаковага супрацоўніцтва, якое да гэтага часу фактычна адсутнічала. Адзінае, што звязвае дзве краіны, — дамоўленасць аб прадухіленні двайнога падаткаабкладання. Цяпер ёсць спадзяванне, што справа будзе зрушана з месца.

Паспяховымі былі перамовы С. Лінга са Старшынёй Савета Еўрапейскага саюза Вольфгангам Шуселем, віцэ-прэм'ерам і міністрам замежных спраў Аўстрыі. Асаблівасць сустрэчы заключаецца ў тым, што яе факт ужо сам па сабе вялікае дасягненне. Як вядома, пасля рэферэндуму 1996 года і асабліва пасля канфлікту з заходнімі дыпламатамі, якія пражывалі ў "Драздах", у перамоўным працэсе беларускага боку з Еўрапейскім саюзам наступіў крызіс. У сувязі з гэтым любая сустрэча з кіраўніцтвам ЕС выкарыстоўваецца з мэтай данясення беларускімі ўладамі сваёй пазіцыі, аднаўлення дыялога.

## СНД: НА ПАРОЗЕ РЭФАРМАВАННЯ

Напярэдадні сустрэчы кіраўнікоў урадаў краін Садружнасці 23 лістапада ў Маскве прайшло заключнае пасяджэнне Спецыяльнага міждзяржаўнага форуму. Ён пачаў дзейнічаць неўзабаве пасля абрання на пасаду Выканаўчага сакратара СНД Барыса Беразоўскага. Прынамсі, сама ідэя форуму належыць менавіта яму. Мэта форуму заключалася ў выпрацоўцы канкрэтнай праграмы рэфармавання органаў Садружнасці. У неабходнасці радыкальных рашэнняў у гэтай галіне цяпер не сумняваюцца ні ў адной дзяржаве СНД, паколькі на сённяшні дзень большасць сумесных дамоўленасцей і праектаў на справе не дзейнічаюць. Але ідэі Б. Беразоўскага напачатку былі насцярожана ўспрыняты кіраўнікамі краін — удзельніц Садружнасці. І, магчыма, прычын[illegible]тага была не сама сутнасць прапаноў, а тое, што яны належаць Беразоўскаму. А[illegible]4 лістапада, знаходзячыся ў штаб-кватэры СНД, Выканаўчы сакратар заўважыў, што цяпер кіраўнікі рэспублік згадзіліся з яго схемай рэфармавання Садружнасці. Аднак Беразоўскі нічога не паведаміў пра пазіцыю беларускага Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, даўшы толькі зразумець, што апошні пакуль не выказаў канкрэтнага пункту гледжання. У Мінску Б. Беразоўскі змог сустрэцца толькі з кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаілам Мясніковічам.

Такім чынам, на Савеце кіраўнікоў урадаў 25 лістапада [illegible]ўным пытаннем стала праблема рэфармавання органаў СНД.

## АД СНД ДА КАНТАКТАЎ З РЭГІЁНАМІ

У той час, калі інтэграцыя ў межах СНД замарудзілася і не прыносіць больш-менш значных поспехаў, беларускае кіраўніцтва змяніла тактыку і скіравала ўвагу на міждзяржаўнае і рэгіянальнае супрацоўніцтва. Асабліва гэта датычыцца расійскіх рэгіёнаў. 18-19 лістапада ў Беларусі знаходзіліся прадстаўнікі Алтайскага краю на чале з кіраўніком Аляксандрам Сурыкавым. Яны правялі ўжо традыцыйныя перамовы з Прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам, кіраўнікамі асобных міністэрстваў. Трэба адзначыць, што тут Беларусь ужо напрацавала стандартную схему: перамовы, наведванне прадпрыемстваў, падпісанне Пагаднення аб супрацоўніцтве, Мемарандума аб далейшых кроках і ў выніку вузкаспецыфічныя дагаворы паміж канкрэтнымі прадпрыемствамі. Падобнае супрацоўніцтва выгаднае ў першую чаргу Беларусі, паколькі ў тавараабароце літаральна з усімі расійскімі рэгіёнамі назіраецца станоўчае гандлёвае сальда. Беларуская прадукцыя знаходзіць рынкі збыту ў першую чаргу менавіта на расійскай прасторы.

## МВФ ЯШЧЭ ВЕРНЕЦЦА

На мінулым тыдні закончылася знаходжанне ў Беларусі місіі Міжнароднага валютнага фонду. МВФ прадстаўлялі дырэктар-памочнік другога еўрапейскага дэпартамента Томас Вульф і старшы пастаянны прадстаўнік фонду ў Літве і Беларусі Адалберт Кнобл. На сустрэчы з кіраўніцтвам Нацыянальнага банка размова ішла пра магчымасць правядзення некаторых рэформ у фінансава-крэдытнай і валютнай галінах Беларусі. Абмяркоўваліся таксама перспектывы выдзялення нашай краіне надзвычайнай і кампенсацыйнай пазыкі, якая выдаецца краінам у выніку рэзкага скарачэння даходаў ад экспарту і ўзнікнення неабходнасці закупак збожжа. Максімальны памер падобнай пазыкі — 100 мільёнаў долараў ЗША. Але ці будзе яна выдзелена Беларусі, паводле слоў прадстаўнікоў МВФ, будзе залежаць ад крокаў беларускага ўрада. Ва ўсякім выпадку было паведамлена, што ў снежні ў Мінск прыбудзе яшчэ адна місія, каб пераканацца, што Беларусь выконвае рэкамендацыі МВФ. У сваю чаргу, старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч адзначыў перамовы з МВФ як перспектыўныя, заўважыўшы, што яны садзейнічалі збліжэнню пазіцый і выпрацоўцы сумесных рашэнняў. Дарэчы, адным з вынікаў перамоў і першым рашэннем урада можна лічыць частковую лібералізацыю валютнага курса.

Між тым Фонд Еўразія, прэзідэнт якога Уільям Мэйнз 19-20 лістапада знаходзіўся ў Мінску, аб'явіў аб пачатку рэалізацыі ў Беларусі "Праграмы універсітэцкіх партнёрстваў". Мэта праекта заключаецца ў прадастаўленні беларускім студэнтам, якія вывучаюць эканамічныя дысцыпліны, магчымасці атрымаць адукацыю ў галіне бізнесу і менеджменту ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі. Гэтаму будзе садзейнічаць фінансавая падтрымка Фонду Еўразія і ўдзел беларускіх студэнтаў у міжнародных адукацыйных праграмах і праектах па абмену.

## ПАД УВАГАЙ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

19 лістапада ў Міністэрстве замежных спраў адбылася прэс-канферэнцыя ўдзельнікаў 4-й нарады АБСЕ па выкананні дзяржавамі-ўдзельніцамі абавязацельстваў у галіне чалавечага вымярэння. Беларускі бок у Варшаве прадстаўлялі 11 арганізацый як дзяржаўных, так і недзяржаўных. Размова на нарадзе датычылася такіх тэм, як вяршэнства закона, адмена смяротнай кары, дэмакратычныя інстытуты, грамадзянства і палітычныя правы, свабода мыслення і веравызнання, свабода выказвання, СМІ і інфармацыя, свабода аб'яднанняў і мірных сходаў. Дыялог на нарадзе атрымаўся адкрытым і канструктыўным, нягледзячы на тое, што пункты гледжання беларускіх удзельнікаў на пералічаныя праблемы не заўсёды супадалі. Апанентамі прадстаўнікам парламента, Вярхоўнага суда, Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей выступілі такія грамадскія аб'яднанні, як "Хартыя-97", Беларускі хельсінкскі камітэт, Усебеларускі камітэт выбаршчыкаў.

### ● СУПРАЦОЎНІЦТВА

Унікальная ў сусветнай практыцы пастаянная сістэма міжнароднай тэлевізійнай касмічнай сувязі пачала дзейнічаць паміж шпіталем японскага універсітэта "Сінсю" ў прэфектуры Нагана і Гомельскай абласной бальніцы. З яе дапамогай урачы дзвюх краін атрымалі магчымасць абменьвацца паміж сабой інфармацыяй у рэжыме рэальнага часу і нават праводзіць сумесныя аперацыі хворых на лейкемію. На снежань гэтага года намечана правядзенне першай сумеснай аперацыі.

### ● ТВОРЧАСЦЬ МОЛАДЗІ

"Навукова-тэхнічны вольны час — пакаленне XXI стагоддзя" — пад такім дэвізам у Маскве ва ўсерасійскім выставачным комплексе "Свет адкрыццяў" прайшоў Міжнародны інтэлектуальны фестываль. Разам са школьнікамі, студэнтамі з Расіі, Украіны, Францыі, Чэхіі, Кітая і іншых краін далёкага замежжа ў ім удзельнічалі і дзеці з Беларусі.

Высокую ацэнку спецыялістаў і журы фестывалю атрымаў універсальны кампрэсар шматмэтавага прызначэння — вынаходства навучэнцаў Слонімскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 189.

### ● НОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ

На Мінскім заводзе колавых цягачоў неўзабаве з'явіцца яшчэ адна перспектыўная мадэль. Гэта новы самазвал МЗКТ-6525. Як і большасць яго "сабратоў", ён не мае аналагаў у СНД. Гэта поўнапрывадная машына грузападымальнасцю 21 тона забяспечана 420-сільным рухавіком германскай фірмы "Дойц". Па сваіх тэхнічных характарыстыках мадэль поўнасцю адпавядае стандарту "Еўра-1".

### ● У ПАРЛАМЕНЦЕ

Палата прадстаўнікоў адобрыла законапраект аб выбарах у мясцовыя Саветы. Трэба сказаць, што работа пагаджальнай камісіі не магла згладзіць усе супярэчнасці, якія бачаць у гэтым дакуменце некатор[illegible] дэпутаты. Але першае чытанне — гэта п[illegible]цце самой канцэпцыі законапраекта, пасл[illegible] якога павінна пачацца асноўная работа па шліфоўцы выбарчага рэгламента.

### ● ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

1998 год — рэкордны. Нікол[illegible] яшчэ ў гэтым дзесяцігоддзі ў лясах рэсп[illegible]і не рэгістравалася так ма[illegible]а пажараў (ш[illegible]здыцыйна з'яўляюцца галаўным болем ра[illegible]тнікаў лясгасаў), як сёлета. У Мінскай вобласці, напрыклад, за ўвесь год зафіксавана крыху больш, чым 100 такіх выпадкаў, а пацярпелі ад агню каля 30 гектараў лесу. У найбольш "гарачым" — 1992 годзе — адбылося ў 15 разоў больш пажараў, якія ахапілі амаль 4 тысячы гектараў.

### ● НАВУКА

У Дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі ў Мінску прайшла выстава "БелВНУнавука-98. Інфармацыйныя тэхналогіі". Пасля яе наведання сумненняў не застаецца: насуперак усім цяжкасцям, навуковая думка ў рэспубліцы не дрэмле, і гэта ўсяляе надзею, што, у прыватнасці, у галіне інфармацыйных тэхналогій мы не апынёмся ззаду планеты ўсёй. На выставе прадстаўлена больш за сто розных распрацовак і праграм.

### ● ПЕРАМОГІ

У штаб-кватэры Нацыянальнага алімпійскага камітэта адбылося віншаванне чэмпіёнаў свету па міні-футболу сярод інвалідаў па зроку. На радзіме легендарнага Пеле нашы футбалісты абыгралі ў рашаючым матчы іспанцаў, якія лічыліся фаварытамі турніру, з лікам 3:2 і ўпершыню заваявалі залатыя медалі сусветнага чэмпіянату.

Прыемная вестка прыйшла і з Нідэрландаў. Беларуская шашыстка Людміла Волкава стала чэмпіёнкай свету сярод юніёрак.

### ● РЭЛІГІЯ

Яшчэ адным храмам больш стала ў старажытным Віцебску: нядзельным днём калакольны звон у шматлюдным мікрараёне Поўдзень-7 абвясціў аб урачыстым адкрыцці праваслаўнай царквы.

### ● САЦЫЯЛЬНАЯ АБАРОНА

Ва ўмовах рэзкага росту цэн кіраўніцтвам краіны прынята рашэнне аб павышэнні пенсій з 1 снежня: мінімальныя павялічацца на 10,5 працэнта (іх памер складзе крыху больш за адзін мільён 275 тысяч рублёў), максімальныя дасягнуць 3 мільёнаў 272 тысяч і павялічацца на 23,7 працэнта. Менавіта на столькі ў працэнтных адносінах узрасла ў кастрычніку сярэдняя зарплата рабочых і служачых, на падставе якой і будзе праведзены пераразлік даходаў пенсіянераў. У сярэднім жа пенсіі павялічацца ў снежні на 22,9 працэнта, і іх памеры складуць 2 мільёны 720 тысяч.

ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ПАДЗЕІ

# ШТО АГУЛЬНАГА ПАМІЖ НАВУКОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫЯЙ І ВЯСЕЛЬНЫМ КАРАВАЕМ?

● **Ліна ДАР.**

Ужо тры гады на Беларусі ўстановамі Міністэрства культуры ажыцццяўляецца навукова-культурная праграма "Беларускі ручнік". Яна была распрацавана Беларускім інстытутам праблем культуры ў лабараторыі традыцыйнага мастацтва аддзела народнай творчасці. Мэта праграмы — не даць памерці найстаражытнейшай беларускай традыцыі ствараць і выкарыстоўваць ручнік, захаваць яго як сімвал повязі з традыцыямі продкаў і як элемент сучаснай культуры.

Інстытутам праблем культуры былі наладжаны навуковыя экспедыцыі, падрыхтаваны спецыяльны апытальнік па беларускаму ручніку і дасланы ў колькасці тры тысячы экземпляраў ва ўсе раёны краіны. На месцах з ім працавалі работнікі ўстаноў культуры, настаўнікі. У выніку камп'ютэрнай апрацоўкі атрыманых матэрыялаў (а вярнулася каля дзвюх тысяч анкет) быў складзены банк даных па беларускаму ручніку. У рамках праграмы адбыўся шэраг раённых выстаў ручнікоў. Рэспубліканскі конкурс на лепшы сучасны беларускі ручнік быў праведзены ў рамках нацыянальнай выставы "Жывыя крыніцы" фестывалю народнай творчасці "Беларусь — мая песня" (пра яго пісала ўжо наша газета).

Таксама ў рамках праграмы была праведзена нацыянальная выстава "Беларускі ручнік". Яна прадэманстравала беларускі ручнік як выдатную з'яву традыцыйнай мастацкай культуры ва ўсёй паўнаце яго рэгіянальных адметнасцей. Былі прадстаўлены ручнікі ўсіх гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі: Падняпроўя, Заходняга і Усходняга Палесся, Цэнтральнай Беларусі, Паазер'я, Панямоння. Ручнікі кожнага з рэгіёнаў маюць свае кампазіцыйныя, арнаментальныя, каларыстычныя, мас-



тацка-тэхналагічныя асаблівасці. Яны з'яўляюцца адлюстраваннем культурных кантактаў беларусаў з суседнімі народамі.

На выставе прадстаўлены ручнікі браныя, тканыя, вышываныя са збораў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальнага мастацкага музея, Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, Веткаўскага музея народнай творчасці і іншых.



У рамках выставы прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "Ручнік у прасторы і часе". Там былі разгледжаны наступныя пытанні: праблема паходжання і развіцця ручніка ў славянскіх, балцкіх і фіна-ўгорскіх народаў, абрадавыя функцыі ручніка, паэтычны вобраз ручніка ў беларускім фальклоры, літаратуры. Прагучала 40 дакладаў, якія тычыліся сімволікі ручнікоў, выкарыстання іх у сялянскай хаце, ручніковых галаўных убораў, рэгіянальных асаблівасцей ручнікоў. У канферэнцыі бралі ўдзел навукоўцы з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы.

Наш карэспандэнт сустрэўся з кандыдатам мастацтвазнаўства Вольгай ЛАБАЧЭЎСКАЙ, якая з'ўляецца адным з аўтараў праграм "Беларускі ручнік", аўтарам канцэпцыі выставы. Дарэчы, сёлета выйшла кніга Вольгі Лабачэўскай "Зберагаючы самабытнасць. З гісторыі народнага мастацтва і промыслаў Беларусі".

— Скажыце, калі ласка, ці не выклікаліны шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных беларускаму ручніку, тым, што існуе рэальная пагроза страціць гэты від народнага мастацтва?

— Беларускі ручнік ткуць, вышываюць сёння па ўсёй Беларусі. Возьмем, напрыклад, знакамітыя неглюбскія ручнікі. Вёска Неглюбка Веткаўскага раёна вядомая ва ўсім свеце ручнікамі, якія ткалі там раней і ткуць цяпер. Тое ж самае можна сказаць пра вёску Моталь у Іванаўскім раёне. І такіх мясцін на Беларусі нямала.

Выраб ручніка на Беларусі мае вельмі багатыя традыцыі. Але ж я лічу, што пра яго мы ведаем недастаткова. Ручнік з навуковага пункту гледжання — з'ява маладаследаваная. Наша выстава, канферэнцыя ў рамках праграмы маюць мэту даследаваць ручнік як мастацкую з'яву, як элемент паўсядзённага жыцця.

— Як бы вы вызначылі, што такое ручнік?

— Ручнік — элемент беларускага мастацтва, які мае глыбокія карані ў нацыянальнай культуры. Традыцыйны ручнік нясе ў сабе подых даўніх плямёнаў, ментальнасць пакаленняў тых людзей, што спрадвеку жылі на Беларусі. Ручнік нібы ўвабраў у сябе ўсё існае — зямное, нябеснае і чалавечае. Гэтыя паняцці мала змяняе час. Таму і застаецца ручнік люстэркам гісторыі народа, яго руху.

Ручнік традыцыйна выкарыстоўваецца ў абрадах беларусаў на вяселлі, на радзінах, на пахаванні. І сёння ў многіх вёсках можна ўбачыць набожнікі — ручнікі, якія вісяць на абразах. Ручнік на самай справе з'ўляецца ўвасабленнем радавой памяці, ён яднае пакаленні. Ён без перабольшвання — скарб традыцыйнай культуры беларусаў.

— І яшчэ яго называюць энцыклапедыяй арнаменту...

— Так. Арнамент — гэта вобразная мова ручніка. Часта знакі на ім застаюцца загадкай для нас. Але ёсць на Беларусі людзі, якія не толькі ткуць ручнікі на кроснах і перабіраюць арнамент, але і чытаюць яго. Важна, каб іх заўважылі ў грамадстве. Мне падаецца, што наш



час вымушае падтрымкі кожнай каштоўнай рэчы ў мастацтве, а ў традыцыйным — асабліва.

— Якія высновы зрабілі вы для сябе ў выніку праграмы "Беларускі ручнік"?

— Я яшчэ раз убачыла, колькі людзей цікавіцца праблемай ручніка. Канферэнцыя "Ручнік у прасторы і часе" мела не толькі навуковы, але і практычны, і асветніцкі характар. Вялікая колькасць людзей імкнулася трапіць на яе. Цяпер хацелася б выдаць матэрыялы канферэнцыі, бо яны вельмі цікавыя і пазнавальныя для студэнтаў, для зацікаўленага чытача наогул. Ды і альбом з выставы "Беларускі ручнік" выдаць неабходна, бо нельга ж было сабраць так шмат ручнікоў з усёй Беларусі і, не пакінуўшы следу, дэманціраваць выставу. Яна павінна быць зафіксавана. Гадуюцца ж беларускія дзеці, на вяселлі якіх калісьці таксама павінны вынесці каравай на ручніку.




*Фота Віктара СТАВЕРА і БелТА.*

САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

# СЛЯПЫЯ ЧЫТАЮЦЬ РУКАМІ

***Сёння 20 тысяч беларусаў маюць інваліднасць па зроку. Толькі ў школах-інтэрнатах для сляпых і слабавідушчых дзяцей навучаецца 1 200 чалавек. У нашай краіне такіх устаноў 7.***

Кожную раніцу гэтыя людзі — дзеці і дарослыя — прачынаюцца, як і мы з вамі, і ідуць хто на працу, хто на заняткі, хто па іншых справах. Яны гадуюць дзяцей, працуюць. Але ж складанасцей у іх больш, бо магчымасці значна абмежаваныя.

Сёння мы спынімся на адным аспекце жыцця сляпых — здольнасці атрымліваць інфармацыю з кніг. Вы кажаце: сам прачытаў, бачыў на свае вочы. Яны кажуць — прачытаў сваімі рукамі. Сляпыя чытаюць, праводзячы пальцамі па лістах спецыяльных кніг, якія друкуюцца шрыфтам Брайля, і для чалавека недасведчанага іх лісты з'яўляюцца наборам выпуклых кропак. Шрыфт распрацаваў француз Луі Брайль у 1829 годзе. Чалавек гэты пражыў 43 гады, сам страціў зрок яшчэ ў раннім дзяцінстве. Сёння яго ведае і паважае кожны сляпы. Пісьмо Брайля прыстасавана для нотапісу, матэматыкі, іншых навук. Першая кніга, надрукаваная такім шрыфтам, — "Гісторыя Францыі" (1837 год). У Расіі шрыфтам Брайля карыстаюцца з 1885 года. Пакольші да апошняга часу на Беларусі не выдаваліся кнігі для сляпых, мы вырашылі пазнаёміцца з галоўным рэдактарам рэдакцыі па выпуску літаратуры шрыфтам Брайля аславам **АНІКОВІЧАМ.** З ім сустрэўся наш карэспандэнт.

**— Як здарылася, шта на Беларусі не было кніг для сляпых!**

— Яны былі. Але ў часы Савецкага Саюза непасрэдна ў Белару выдаваліся, а паступалі з Масквы лі ж утварылася самастойная дзяржава — з'явілася неабходнасць і ў сваіх кнігах. У школах сталі працаваць па новых праграмах, што адрозніваюцца ад расійскіх. Спачатку ў школах абыходзіліся запасамі кніг для сляпых, выдадзеных у Маскве. Але настаў час (2 гады таму), калі неабходнасць у кнігах на роднай мове стала вострай, і на дзяржаўным узроўні вырашылася пытанне аб стварэнні рэдакцыі па выпуску літаратуры шрыфтам Брайля на базе выдавецтва "Полымя".

**— Ці шмат шрыфтаў існуе ў свеце для сляпых!**

— Існуе адзіны шрыфт — шрыфт Брайля. Ён прыняты ва ўсім свеце.

**— Няўжо ніколі беларускія сляпыя дзеці не мелі кніг на роднай мове!**

— У школе для сляпых дзяцей у Гродне зрабілі спробу надрукаваць на самадзейным станку шрыфтам Брайля некаторыя творы на беларускай мове — паэму Я. Коласа "Новая зямля" і п'есу К. Крапівы "Хто смяецца апошнім". Шмат гадоў яны заставаліся адзінымі творамі на беларускай мове, надрукаванымі шрыфтам Брайля. Калі я вучыўся ў школе, нам чыталі ўголас кнігі беларускіх пісьменнікаў. Чытаць жа самім на беларускай мове не было чаго. Цяпер сітуацыя палепшылася. Наша рэдакцыя за 2 гады выпусціла некалькі падручнікаў па беларускай мове, літаратуры, кнігі беларускіх пісьменнікаў, падручнік "Мая радзіма — Беларусь".

**— Як ажыццяўляецца выпуск літаратуры шрыфтам Брайля!**

— Калі было прынята рашэнне ўрада аб выпуску кніг для сляпых на Беларусі, стварылі рэдакцыю на базе выдавецтва "Полымя". Тут працуе 4 рэдактары і мастак. Абсталяванне закуплена ў Германіі, яго ўстанавілі ў друкарні "Чырвоная зорка". Невялікая па зместу кніга, набраная шрыфтам Брайля, выходзіць у некалькіх вялікіх тамах. Для гэтага шрыфта патрэбна спецыяльная папера. Хоць тэкст і друкуецца на два бакі, ліст выходзіць значна большы па аб'ёму. Напрыклад, раман Л. Талстога "Вайна і мір", надрукаваны шрыфтам Брайля, складае 29 тамоў.

**— Якім накладам выходзяць вашы кнігі!**

— Летась мы падрыхтавалі 700 экземпляраў падручнікаў. Увогуле наклады кніг невялікія: серыя "Школьная бібліятэка" — 27—35 экземпляраў, падручнікі — 95 экземпляраў. Пакуль не выходзяць кнігі, якія былі б разлічаны на масавага чытача — напрыклад, мастацкая літаратура для дарослых. Хацелася б, каб у перспектыве на Беларусі з'явіліся і такія кнігі, бо патрэба ў іх сярод сляпых людзей ёсць. У Расіі, дарэчы, для сляпых выходзяць самыя розныя кнігі.

**— Такіх накладаў падручнікаў хапае!**

— Разлічана, каб кожны вучань меў кнігі. Сляпыя дзеці вучацца ў спецыяльных інтэрнатах, дзе вучэбнай літаратуры дастаткова. Зразумела, кнігі, якіх не так ужо шмат, не становяцца ўласнасцю дзяцей, а пераходзяць ад старэйшых да малодшых. Наогул, кнігі для сляпых традыцыйна выдаюцца не так часта, як звычайныя.

**— Мусіць, тэрмін выкарыстання кніг для сляпых (па іх жа трэба пастаянна вадзіць пальцамі) меншы, чым у звычайных!**

— Не. Тэхналогіяй прадугледжана, што ад пальцаў нашы кнігі не сціраюцца. Трэба толькі захоўваць іх у вертыкальным становішчы. Калі ж зазірнуць у кнігу новую і кнігу, выдадзеную 10 гадоў назад, — апошняя выглядае не горш.

**— А ці ёсць у такіх кнігах малюнкі!**

— Мы б вельмі хацелі рабіць малюнкі: здараецца, яны маюць важнае значэнне для разумення зместу. Мы пакуль адаптуем малюнкі, робім іх апісанне. У Маскве малюнкі выбіваюцца кропкамі. У нас жа ёсць задума рабіць малюнкі з выкарыстаннем тэрмапаперы. Павышаецца якасць, малюнкі робяцца больш рэльефныя. У нямецкіх кнігах нават выкарыстоўваюць колер. Гэта вельмі слушна, бо чалавек з рэшткамі зроку можа нешта ўбачыць. Аднак патрэбную паперу магчыма набыць толькі за валюту. Пакуль пытанне вырашаецца ў Камітэце па друку.

**— Здаецца, што зараз у сляпых людзей больш шанцаў прызвычаіцца да нармальнага жыцця, чым раней!**

— Думаю, так. Добра памятаю, як сам вучыўся ў школе для сляпых (скончыў яе, дарэчы, з залатым медалём). Спачатку (гэта быў 1955 год) на ўвесь клас меўся адзіны буквар. Настаўніца сама перапісвала кожнаму ліст буквара. Каму ж трапляла ў рукі цэлая кніга, лічыўся сапраўдным шчаслівчыкам.

Пасля школы паступіў на дзённае аддзяленне факультэта матэматыкі ва універсітэт, а мяне перавялі на завочнае навучанне. Я забраў дакументы, бо зразумеў, што чалавеку без нармальнага зроку такое не па сілах. Чатыры гады не паступаў нікуды. Потым усё ж такі стаў студэнтам філасофскага аддзялення гістарычнага факультэта універсітэта. Спецыяльных кніг для сляпых па інстытуцкай праграме не было. Нешта мне начытвалі на магнітафон родныя (уявіце сабе, колькі першакрыніц па філасофіі неабходна прачытаць), канспекты лекцый пісаў шрыфтам Брайля (існуе спецыяльнае прыстасаванне для запісу).

Калі я вучыўся, у Мінску не існавала асобнай бібліятэкі для сляпых. Сёння ж яна дасягальная для іх з маленства. Ёсць там і абанемент, і чытальная зала.

Аднак усё роўна пакуль нашы сляпыя дзеці жывуць у абмежаваным свеце. Здаецца, грамадства не хоча бачыць праблем інвалідаў, забываючыся: усе пад адным Богам ходзім.

**Алена СПАСЮК.**

СА СТАРОГА КУФРА

# КРАСНАПОЛЬСКА-ЧАЧЭРСКІЯ СТРОІ



Краснапольска-чачэрскія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Паднястроўя. Бытавалі ў XIX — сярэдзіне XX стагоддзяў пераважна ў Краснапольскім, Касцюковіцкім, Клімавіцкім, Хоцімскім, Чачэрскім, Чэрыкаўскім раёнах. У іх найбольш яскрава адбіўся працэс узаемаўзбагачэння і ўзаемапранікнення рускага, беларускага і ўкраінскага народнага адзення.

Для краснапольска-чачэрскіх строяў характэрная вялікая разнастайнасць форм адзення, багатае кампазіцыйнымі варыянтамі і арнаментальнымі матывамі мастацкае афармленне, у якім важнае значэнне, акрамя вышыўкі і ўзорыстага ткацтва, мела карункапляценне, аплікацыя. У жаночым гарнітуры пашыраны 4 комплексы: кашуля, расхінная панёва, гарсэт, намітка; кашуля, андарак з дзесяткай (спадніца з прышытым ліфам-гарсэтам у асобных варыянтах нагадвала сарафан на лямках), 1-полкавы суконны фартух, хустка; кашуля, андарак, 4-полкавы льняны фартух, хустка; кашуля або блуза, кроеная з гесткай, крамная спадніца з прышыўным ліфам, 1-полкавы фартух, хустка. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, прышытымі па ўтку, з вялікім акладным каўняром, аздобленым па краях паскам вязаных белых карункаў або паркалёвых брыжоў. Шырокі рукаў злучаўся з плечавой ус-таўкай узорыстым паскам мярэжкі з чырвона-чорным геаметрычным арнаментам (капейкі).



Вышыты чырвонымі, чырвона-чорнымі баваўнянымі ніткамі арнамент 8-пялёсткавых разетак, ромбаў, квадратаў кампанаваўся радамі, у шахматным парадку або размяшчаўся ў ячэйках-сотах, якія ўтвараліся перасячэннем дыяганальных або гарызантальных і вертыкальных палос. Густа нашыты на рукавы ўзор вылучаецца багаццем арнаментальных варыяцый, тонкасцю ўзораў, гармоніяй і агульнай пластыкай. Фартухі аздаблялі ўзорыстым ткацтвам, вышыўкай, аплікацыяй; панёву, андарак натыкалі клятчастым вохрыста-чырвоным арнаментам. Андарак і ліф-гарсэт часам кроілі з розных тканін: ніз з клятчастай даматканкі, ліф — з крамнай узорыстай і гладкафарбаванай тканіны. Спадніцу шылі з ільнянога аднатоннага, клятчастага, паласатага, белага, бела-сіняга палатна. Падпяразвалі вузкім поясам, канцы якога аздаблялі дэкаратыўнымі кутасамі, нізкамі разнаколернага бісеру.

Галаўныя ўборы жанчын — намітка, чапец (вязаны з белых нітак або шыты з чырвоных крамных тканін), хустка. Насілі пацеркі, шыйныя бісерныя паскі, абразкі. Мужчынскія кашулі кроілі з плечавымі ўстаўкамі (палікамі) або тунікападобныя; у іх вышывалі манішку, падол, каўнер і каўнерцы, падпяразвалі поясам. Нагавіцы шылі з палатна, шэрага ці карычневага сукна. Вопратку (світу, шубу, кажух, куртку, сак) аздаблялі нашыўкамі і аблямоўкамі фабрычных (чырвоных, сініх) тканін, аплікацыяй шнуром.

Падрыхтаваў да друку
**Дзяніс РАМАНЮК.**

НА ШЛЯХУ ДА ЧЫТАЧА

# «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 10—11, 1998 г.

У свет выйшаў чарговы (№ 10-11) выпуск інфармацыйна-аналітычнага культуралагічнага бюлетэня "Кантакты і дыялогі". Як заўсёды, ён невялікі па памеры, але важкі па зместу надрукаваных артыкулаў. На вокладцы нумара — надпіс: "Беларусы ў памежных краінах". Гэтыя словы цалкам адпавядаюць агульнай скіраванасці ўсіх матэрыялаў, змешчаных на старонках часопіса.

Адкрывае выданне артыкул "Псалтыр і духоўнасць украінцаў і беларусаў" львоўскага аўтара, кандыдата філалагічных навук Івана Лучука. На працягу многіх стагоддзяў Псалтыр быў адным з галоўных вытокаў славянскай духоўнасці. Па Псалтыры вучыліся чытаць і пісаць. Псалмы людзі ведалі на памяць. Аўтар вышэйзначанага даследавання спыняе сваю ўвагу на праблеме перакладаў Псалтыра.

Анатоль Вялікі і Ларыса Языковіч (Мінск) узнімаюць тэму перасялення беларускага насельніцтва з Польшчы ў Савецкую Беларусь і ў зваротным накірунку пасля заканчэння другой сусветнай вайны. Аўтары адзначаюць, што новая мяжа паміж Польшчай і Беларуссю "рэзала па жывому і паўплывала на лёсы соцень тысяч нашых суайчыннікаў па абодвух баках мяжы, на спрадвечныя родныя, сяброўскія, гаспадарчыя адносіны, што існавалі ў памежжы". У артыкуле згадваецца храналогія звязаных з гэтым падзей і аналізуюцца асобныя моманты тагачаснай няпростай сітуацыі.

У раздзеле "Культура і адукацыя беларускага замежжа" друкуюцца артыкулы старшыні Беларускага культурнага таварыства "Беларусы Сібіры" з Новасібірска і настаўнікі беларускай школы імя Ф. Скарыны ў Вільнюсе. Тэма даследавання У. Галузы "Беларусы Заходняй Сібіры: гісторыя і сучаснасць", Л. Мілаш "Беларуская культура і школьніцтва на Віленшчыне: пачатак і канец XX стагоддзя". Сярод іншага Леакадзія Мілаш, у прыватнасці, зазначае: "Багата зроблена ў галіне беларускай культуры і адукацыі ў апошнія дзесяць гадоў. На працягу многіх стагоддзяў беларуская мова выжывала. Але сёння варункі больш складаныя і менш спрыяльныя для развіцця беларускага школьніцтва ў Літве, чым нават на пачатку стагоддзя. І будзе пагаршацца, пакуль не зменіцца адносіны ў Беларусі да беларускай мовы, культуры, гісторыі. Патрэбна еднасць у самой дыяспары, больш рэальная дапамога метраполіі, як гэта робіцца ва ўсім цывілізаваным свеце".

Пол Веркрайсэ — дырэктар школы "Маленькі прынц" у бельгійскім гарадку Дадзізэле. У асноўу невялікага артыкула, прысвечанага Бельгіі, пакладзена выступленне П. Веркрайсэ ў Беларускім таварыстве дружбы ў сувязі з Днём незалежнасці Бельгіі.

Драматычны жыццёвы шлях віленскага беларуса Віктара Ярмалковіча зацікавіў Мечыслава Яцкевіча, прафесара Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне, удзельніка многіх канферэнцый МАБ. Ён прысвяціў В. Ярмалковічу, настаўніку, літаратару, вязню польскіх, нямецкіх і сталінскіх лагераў, біяграфічны артыкул.

Часопіс "Кантакты і дыялогі" прапануе так званыя "Старонкі будучага даведніка", дзе знаёміць чытачоў як з цэлымі арганізацыямі, так і асобнымі выбітнымі дзеячамі мінулага і цяперашняга беларускага замежжа. У гэтым нумары расказваецца пра Беларускае студэнцкае зямляцтва ў Варонежы (1924 — 1929), сучасныя — беларускую абшчыну "Світанак" у Кыргызстане, Таварыства беларускай культуры ў Калінінградскай вобласці Расіі. З інфармацыі, змешчанай у раздзеле, можна таксама даведацца пра жыццё і справы такіх вядомых асоб, чыё паходжанне звязана з Беларуссю, як святар, магістр тэалогіі Антоній Дзевятоўскі, вучоны-хімік, акадэмік Валянцін Капцюг, педагог, літаратар Пятрусь Капчык, грамадскі і культурны дзеяч з Польшчы Міхась Куптэль, прадпрымальнік, мецэнат, дзеяч беларускай дыяспары ў Расіі Анатоль Сілівончык. Дарэчы, А. Сілівончык стаў галоўным фундатарам праграмы па адраджэнню вобраза духоўнай святыні беларускага народа — Крыжа святой Ефрасінні Полацкай і шмат зрабіў, каб гэтая праграма была выканана.

Асаблівую цікавасць у чытачоў-бібліяфілаў выклічуць змястоўныя, высокапрафесіянальныя рэцэнзіі на шэраг новых выданняў: "Белорусский сборник": статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии", які выйшаў сёлета ў Санкт-Пецярбургу, кнігу Лявона Луцкевіча "Вандроўкі па Вільні", дзе закранаецца вялікая тэма "Беларусы і Вільня", манаграфію польскага літаратуразнаўцы Базыля Бялакозовіча "Паміж Усходам і Захадам: З гісторыі фарміравання беларускай нацыянальнай самасвядомасці", выпушчаную ў Беластоку, а таксама "Гістарычны даведнік Беларусі" з серыі "Еўрапейскія гістарычныя даведнікі" пад рэдакцыяй Джона Воранава. Аўтар працы — вядомы гісторык і публіцыст Янка Запруднік.

Традыцыйна часопіс "Кантакты і дыялогі" прапануе рубрыкі "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і свеце" і "Хроніка беларусазнаўчага жыцця".

# АДНАДУМЦЫ ПРАЗ СТАГОДДЗІ

*недахопаў, пры тым вельмі суб'ектыўна-тэндэнцыйны, а годнае прадстаўленне аўтара пісьменніка шырокай чытацкай грамадскасці, у адпаведнасці з той місіяй, якая прадвызначана яму характарам і спецыфікай таленту, на шляхах служэння айчыннай кніжнасці, развіцця і ўзбагачэння нацыянальнага пісьменства, выпраўлення нораваў свайго часу, зберажэння і абароны спрадвечных духоўных каштоўнасцей, ратавання сталых глыбінных уласцівасцей этнічнага архетыпу.*

"Конрад Валенрод". Нездарма за іх і за іншыя творы гістарычнай тэматыкі называлі яго сучаснікі "літоўскім Вальтэрам Скотам".

Балады ды паэмы "літоўскага Вальтэра Скота" не загубіліся ў часе і ў культурнай прасторы, яны "супадалі і супадаюць з нацыянальным часам", надаючы асаблівую глыбіню кожнаму значнаму перыяду айчыннага жыцця, сцвярджае У. Някляеў.

Наследаванне Адамам Міцкевічам уласцівасцей мовы і архетыпа беларуска-польскай этнічнай еднасці, кангламерата гэтых моў, які пачаў складвацца з часоў узнікнення Шарашоўскай Біблії Сафіі Гальшанскай, а ў XVII стагоддзі меў за вяршыні "Вобраз цноты і славы" І. Ужэвіча і "Фрынас" М. Смотрыцкага, на што неаднойчы наракалі польскія міцкевічазнаўцы, пагардліва называючы такую з'яву "смаргоншчынай усходніх крэсаў" (якой вялікі наваградзец ганарыўся і свядома яе падкрэсліваў), дало свае парасткі і ў творчасці не толькі сучаснікаў: Я. Чачота, Т. Зана, А. Ходзькі, Т. Лада-Заблоцкага і інш., але і ў творах наступных пакаленняў: У. Сыракомлі, Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Ельскага, Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, А. Цёткі, М. Гарэцкага, У. Дубоўкі, Н. Арсенневай, У. Жылкі, Л. Геніюш, У. Караткевіча, А. Вялюгіна, А. Пысіна, Р. Барадуліна, Я. Сіпакова, С. Законнікава, А. Дударава, А. Вярцінскага, Г. Далідовіча, Д. Бічэль-Загнетавай, Н. Тулупавай, В. Іпатавай, Я. Янішчыц, але найбольш у творчасці паэта са Смаргоншчыны — У. Някляева.

Вяртаючыся да вялікага наваградчаніна, згадаем, што менавіта ён паставіў мэтай сваёй творчасці і асветніцкай дзейнасці (нельга не прыпомніць лекцыі, прачытаныя на кафедры славістыкі ў Калеж дэ Франс) — адраджэнне класічнага Багнатхнёнага шляху развіцця айчыннай кніжнасці, праторанага славутым духоўным пісьменнікам і першадрукаром Францішкам Скарынам, — праз засваенне закансерваваных у прастамоўным бытаванні, у сховах вуснай паэзіі беларускіх звычаяў і вераванняў, здабыткаў "залатога веку" старабеларускай культуры, што пацвярджае думку медыявістаў пра філалагічны працэс XVI—XVII стагоддзяў як неабходную перадумову мастацтва Новага часу.

Напрыканцы XX стагоддзя сярод даследчыкаў беларуска-польскіх сувязей пашыраецца ўяўленне пра Адама Міцкевіча, як духоўнага прадцечу, пачынальніка ў беларускай і польскай літаратуры XIX стагоддзя (што знаходзіліся ва ўлонні адыходзячага класіцызму) эстэтычных крытэрыяў і творчай практыкі краёвага рамантызму, а таксама ўяўленне аб ім як фактычным пачынальніку ў беларуска-польскім рэгіёне паэзіі (і ўвогуле літаратуры) Новага часу.

Сваё прынцыповае наватарства паэт сціпла параўноўвае (не як зусім па-беларуску) з першай веснавой кветкай пралескай, дарэчы, такую назву носіць і першы твор у кнізе "Балады і рамансы". Імкненне да асабістага паразумення з сябрамі, каханай арганічна перарастае, паводле У. Мархеля, у "дыялог паміж "я" паэта і пралескаю", што "алюзійна высвечвае праблему рамантызму з пазіцыі ўсведамлення непазбежнасці ранняга росквіту кветкі і з пазіцыі сумнення ў паспяховасці гэтага росквіту. Папярэджанне пра небяспеку, якая падпільноўвае пралеску, выходзіць ад "я" паэта, знаёмага з несправыйнай рэчаіснасцю":

(Працяг на 7-й стар.).

**РАДАВОД**

# ГУЧНАЕ «Я» РОДУ ЛІПСКІХ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

былі надрукаваны звароты да людзей, што носяць гэтае прозвішча. На іх таксама многія адгукнуліся і даслалі лісты, частка якіх, дарэчы, надрукавана ў кнізе. Словам, з цягам часу такая бяскрыўдная задума перарасла ў апантанае імкненне дакапацца да самых глыбокіх каранёў.

Сёння можна сказаць, што аўтару гэта цалкам удалося. Ён сабраў пад адной вокладкай усіх Ліпскіх, карані якіх адшукаў у Беларусі, Польшчы, Расіі, Літве, Германіі, Аўстраліі, Канадзе, ЗША і іншых краінах. Ён высветліў, што род мае некалькі не звязаных паміж сабой галін, у старажытнасці Ліпскія валодалі трынаццаццю дваранскімі гербамі. Пісьменніку нават удалося раскрыць некаторыя літаратурныя таямніцы. Напрыклад, з'явілася тлумачэнне гісторыі напісання "Пінскай шляхты" В. Дуніна-Марцінкевіча.

Такім чынам, даследаванне У. Ліпскага сапраўды з цягам часу выйшла за межы апісання гісторыі аднаго роду. Сам аўтар кажа: "Не трэба забываць, што сям'ю ствараюць два чалавекі, якія носяць звычайна розныя прозвішчы. Дык вось я ў кнізе паспрабаваў падлічыць, з кім Ліпскія былі звязаны гэтай сямейнай повяззю, і атрымаў амаль старонку розных прозвішчаў. Гэта толькі тых, якія мне сталі вядомыя. Па сутнасці атрымліваецца, што ўсе людзі на свеце — радня. І чым часцей мы будзем уздымаць такія тэмы, чым больш будзем іх даследаваць, тым хутчэй убачым, як многа ў нас агульнага, і зблізім людзей, змацуем нацыю. Можа, гэтая ідэя і стане тым агульным, вакол чаго аб'ядноўцца беларусы. Вось такія задачы я ў выніку ставіў перад сабой. Сапраўды, я шмат пішу пра свой уласны род. Але я адначасова веру, што мой прыклад некага зацікавіць і натхніць на аналагічныя даследаванні. Ва ўсякім выпадку, мне вельмі хочацца, каб так адбылося".

Вось і атрымліваецца: я плюс я — сям'я, сям'я плюс сям'я — род, род плюс род — народ, народ плюс народ — людзі Зямлі. У. Ліпскі ў кнізе прыводзіць такія звесткі: у дзесятым калене ў кожнага з нас атрымліваецца 1 024 продкі. Гэта нашчадкі стольких людзей на працягу нейкіх трохсот гадоў стварылі нас, сённяшніх. Канешне, цяжка даведацца, кім яны былі, але ад усведамлення гэтага таямніца становіцца яшчэ больш прывабнай. І калі дакапаешся да каранёў, пачынаеш адчуваць сябе багацейшым. "Я лічу, што гэтая сувязь павінна перадавацца з пакалення ў пакаленне ў кожнай сям'і, — кажа У. Ліпскі. — І калі б такое было, то мы мелі б новую гісторыю Беларусі, бо менавіта гэтыя людзі, нашы бацькі, дзяды, прадзеды ды прапрадзеды стваралі гісторыю нашай краіны".

З 1 024 чалавек, пра якіх гаворыць аўтар даследавання, толькі адзін тэарэтычна мог насіць прозвішча Ліпскі, а загадка астатніх 1 023 застаецца неразгаданай. Таму пісьменнік мае рацыю, калі кажа, што мы ўсе звязаны. Дакладна ведаю, што мае продкі не раз былі звязаны кроўнай сувяззю з родам Ліпскіх.

У грамадстве існуе меркаванне, нібыта дакументы ў архівах захаваліся толькі часткова, на асобныя прозвішчы. На самай справе гэта не так: любы чалавек можа пачынаць пошукі інфармацыі ў архівах. Гэта не раз на генеалагічных чытаннях падкрэслівалі і старшыня Камітэта па архівах і справаводству, сустаршыня Беларускага генеалагічнага таварыства Аляксандр Міхальчанка, і дырэктар Нацыянальнага гістарычнага архіва Ала Галубовіч. У гэтым асабіста пераканаўся і У. Ліпскі, які цяпер заняты новым даследаваннем. Пісьменнік піша кнігу пра радавод кампазітара Ігара Лучанка. І нягледзячы на тое, што бацька апошняга паходзіць з сялян, удалося знайсці звесткі да дзесятага калена.

Дарэчы, У. Ліпскі не хавае, што яму ўжо хочацца дапрацаваць кнігу пра свой род, бо з'явілася новая інфармацыя. Такім чынам, даследаванне працягваецца.

***P. S. Аляксандр Міхальчанка, старшыня Камітэта па архівах і справаводству ў пасляслоўі да кнігі "Я" піша: "У пачатку 1996 года ў Беларусі жыло 10 315 000 грамадзян. Паводле даных акадэміка М. В. Бірылы, на ўсіх гэтых людзей усяго 58 230 прозвішчаў. Гэта значыць, што кожны 177-мы жыхар мае аднолькавае прозвішча. Зразумела, ёсць сярод іх і найбольш распаўсюджаныя, ёсць надзвычай рэдкія. Але ў сярэднім вывучыць 177 чалавек не такая вялікая праца для кожнага, каб наладзіць новыя, вельмі плённыя сувязі. Няхай абставіны і час разлучылі галінкі радаслоўнага дрэва, злучыць іх — наша, сучаснік, задача, каб усё ды адчуваць сябе ў гарманічным адзінстве з прыродай і грамадствам".***



*Прадстаўнікі сямей, якія носяць прозвішча ЛІПСКІЯ.*

*Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.*

**ДЫНАСТЫЯ**

# 70 ГАДОЎ У КАХАННІ

● **Віктар ХАРОШКА, Сяргей БРУШКО** (фота).



Ёсць такое паняцце: на іх жыццё трымаецца. Просценькая ісціна, але спазнаць яе можна, толькі сутыкнуўшыся з людзьмі, якія па тым жыцці прайшлі многа. Вельмі многа.

Калі даведаліся, што пан Іосіф і пані Гэля жывуць разам семдзесят гадоў, пераглянуліся. Гэта ж сама гісторыя.

А калі зазірнулі ў шчаслівыя вочы ўлюбёных у жыццё людзей — паверылі ў шчасце кахання.

Нават уявіць цяжка, як можна праз столькі гадоў несці гэткую нялёгкую ношу, як любоў, каханне.

...Аднойчы ўбачыўшы Гэлю, ён сказаў сабе: мая! І яна адразу адчула: мой!

Пачалі ладзіць свой быт. Сякі-такі залаты быў. Прыгледзелі кавалак зямлі. Пад самай Лідай. Кіламетраў за восем. Закасалі рукавы — і з'явіўся дом. Ладны такі, дагледжаны.

Пяць гектараў зямлі — не вельмі многа. Але ж гэта як на іх глядзець і якім вокам. Іосіфу памроілася шчасце ў яблыневым садзе. Ды зноў — трэба грошы. Саджанец па польскім часе нямала каштаваў. Тым не менш, шчыруючы каля агарода, а прадукцыя пана Якубоўскага ў Лідзе ішла нарасхват, думаў пра святое.

Сад, толькі сад.

Па зярнятку збіраў, песціў сваю яву. Сто яблынь — мара, якая праз колькі гадоў здзейснілася. Забуялі дрэўцы.

А якая была асалода ад смаку свайго першага яблыка! Са сваёй Гэляй. Яны разам вучыліся любіць усё.

Душа ў радасці ад першай Ядзі. Сёння сямідзесяцігадовая дачка жыве побач. Адбудавала даміну. Падарыла ўнукаў дзеду з бабай. Глядзіць за ўсім: дзве кароўкі, цялятка, тры парсюкі, трусы, куры. Іосіф Іосіфавіч і Галіна Адамаўна сёння толькі даюць парады.

— Божухна, дзе ж на гэта сілы набрацца?

— Дык сваё ж.

Якія больш пытанні?!

Мы ідзём па садзе. Тады яшчэ была цёплая восень. Іосіф Іосіфавіч з гадамі (92 ж!) стаў слабавата бачыць. І раптам — бух, падае яблык. Мы і не заўважылі б. Але...

— У трэцім радзе антонаўка легла. Гэля, трэба здымаць.

Што тут болей скажаш.

Тым не менш цікавімся:

— Столькі яблыкаў, і дзе ж яны дзяюцца?

— От, людцы добрыя, па паўтары тысячы за кіло здаём.

— Ці не шкада?

— А якое шкада! Недзе яблыкі спатрэбяцца. Нядаўна іншае было. Прыехалі і 300 кілаграмаў па тры з паловай тысячы ўзялі. Добры чалавек трапіўся.

Гаспадарская жылка ў сям'і Якубоўскіх адчуваецца ва ўсім.

У хаце такі парадак, якога не ўбачыш у акрузе. Галіна Адамаўна шчыруе сама.

— Яна дужэйшая, — Іосіф Іосіфавіч ганарыцца. — Затое і робіць больш.

Раптам на твары смутак.

— Што?

— Сыночка ўспомніў.

— ?!

— Малады быў, як дуб. За намі глядзеў, як за малымі. Сорак тры гадкі ўсяго працягнуў.

Бачыць слёзы на анёльскім твары цяжка. Вельмі цяжка.

Сыночак быў апорай. Як зараз унук. Гэта ён у свае амаль сорак каля дзеда з бабай. Слухае, дапамагае. Асабліва каля пчол.

О, гэта асобная справа, "пшчолы". Любое "дзынь" гаспадару зразумелае. Адна дадому з узяткам, другая — у дарогу. Тая з вулля нумар дзевятнаццаць, тая — з трыццаць шостага.

Так, так. 36 вулляў налічвае пчальнік. Іншая справа, што не ўсе заселены.

— Было згінулі. З-за чаго, не ведаю. Развёў па-новаму.

Кажам:

— Іосіфавіч, для газеты здымак трэба.

— Гэля, нясі гальштук і капялюш, — імгненнае рэагаванне.

І доўгія зборы. Дачка Ядзя лезе ў шуфляду, дастае любімы гальштук. Тут жа патрабаванне лепшай кашулі — народ глядзець будзе. Пакуль падрыхтоўваюцца, любячыя вочы Адамаўны маўчаць. Потым ласкавае:

— Юзік, адкінь каўнерык, не для мяне прыхарошваешся.

— От жа, бачыце, не для яе. А для каго?

Прыемна чуць такое. Пранесенае праз 70 гадоў.

І тады на стале з'явіўся мёд. І свае булкі.

— Самі?

— А як жа.

— І часу стае?

— А дзеля чаго жыву? — гэта Адамаўна.

— Юзік не любіць магазіннага батона. Іншая справа свой. Ото добра.

Сапраўды, хвала рукам. Смаката!

Лёс іх не зусім песціў. Толькі-толькі ўсталі на ногі — улада змянілася. Прыйшлі Саветы — і ў калгас. Яно б і нічога, але падумаць трэба.

Падумаў. Жонка пагадзілася. Узялі на пастой старшыню калгаса.

— Добры быў хлопец. Кажа, я сілком ў камуну гнаць не збіраюся, — цяжка даецца ўспамін. — Дый ты, Юзік, скажы людзям, няхай на сходзе выкажуцца, як думаюць.

Не сказаў. Маўляў, кожны мае галаву на плячах. Няхай думае.

Праз два дні надзелі наручнікі. "Вораг народа". "Гнездо антипартийной линии".

Вось тады першы раз і заплакаў. Калі ні за што білі жонку.

Яно і сёння свярбіць.

Бо ў той жа калгас пайшоў амаль ці не першым. Аддаў свае гектары. З адной умовай: стаць галоўным агароднікам.

Калі Іосіфу Іосіфавічу споўнілася 90, сабралася амаль уся радня. Не прыехаў толькі адзін унук з жонкай.

— А хто б мне прапраўнучку падарыў? — гэта шчыра, ад сэрца. Бо ў 92 кожнага са сваіх нашчадкаў памятае не па імёнах. Па датах нараджэння.

Дык у чым жа шчасце гэтых людзей?

У добрай прозе жыцця і кахання.

Ім сёння добра ў сваёй сям'і. Як было добра і ўсе 70 гадоў сумеснага жыцця.

...Схіляю галаву.

На такіх людзях зямля трымаецца.

**("Народная газета").**

З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА



# «ПАЛЕССЯ МІЛАЕ ДЗІЦЯ»



Споўнілася 50 гадоў з дня нараджэння паэтэсы Жэні Янішчыц і 10 гадоў з дня яе трагічнай гібелі. З гэтай нагоды ў Доме дружбы прайшла прэзентацыя яе кніг, выдадзеных у Балгарыі і на Украіне. Дом літаратара ў Мінску ўшанаваў талент Яўгеніі Іосіфаўны — аўтаркі шматлікіх кніг лірыкі, празаічных і публіцыстычных твораў, перакладаў. Згадвалася, што яе вершы перакладзены на англійскую, балгарскую, венгерскую, грузінскую, іспанскую, казахскую, латышскую, літоўскую, малдаўскую, нямецкую, польскую, рускую, украінскую, чувашскую, чэшскую мовы.

Літаратурны музей Янкі Купалы падрыхтаваў выставу да вечарыны "Палесся мілае дзіця" ў гонар лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы, якую Жэня Янішчыц атрымала ў 1986 годзе за кнігу "Пара любові і жалю".

Літаратурныя юбілейныя імпрэзы прайшлі і на яе радзіме. У Парэцкай сярэдняй школе, дзе вучылася Жэня, адкрыты музей.

Прапаную некалькі здымкаў з нашых сумесных з ёю дарог.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

*НА ЗДЫМКАХ.* Жэня ЯНІШЧЫЦ. Мінск, 1971 г.; Міласлаў ЗІМА, Міхал ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ, Жэня ЯНІШЧЫЦ, Вацлаў ЖЫДЛІЦКІ. Прага, 1973 г.; з хросная маці сына Андрэя — Нінай ЯНСАНЭ (Панізьнік). Юрмала, 1974 г.; Жэня ЯНІШЧЫЦ, Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА, Яўген КРУПЕНЬКА, Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ, Славамір ХАДАРОНАК, Мар'ян ДУКСА. Масква, 1969 г.; Эчміадзін (Арменія), 1972 г.

(Фота С. П.).





# Адам МІЦКЕВІЧ і Уладзімір НЯКЛЯЕЎ— АДНАДУМЦЫ ПРАЗ СТАГОДДЗІ

(Працяг. Пачатак на 4-й стар.).

**Покуль, кветка, час прадвесні:**
**Поўнач стыняй патыхае,**
**На гары шмат белай плесні,**
**Шчэ дуброва не сухая.**

**Кінь агеньчыкам святліцца**
**І стуліся пры яліне,**
**Каб цябе не знішчыў іней**
**Ці халодная расіца.**

Пра поспех першага зборніка паэта "Балады і рамансы" (1822) крытык Ю. Коленбах пазней напіша наступныя словы: "У задыхлую атмасферу ўмоўных, будуарных сентыментаў, прапахлых мускусам Талімены, упалі "Балады", быццам букет апрысканых расою вясновых кветак з сельскіх палёў. Ад гэтых майскіх кветак, ад гэтых вясновых пралесак з берагоў Свіцязі, ад водару чарэмхі з курганка Марыі павеяла свежасцю па ўсёй Польшчы". Ці не такім жа свежым водарам жыцця, які персаніфіцыруецца праз вобраз першацвета-пралескі, паланяць нас радкі інтымнай лірыкі У. Някляева:

**...Прыбегла з марозу, на вейках**
**зара —**
**І хрумстка, і свежа, і снежна з парогу!**
**Яшчэ ў нас наперадзе, дзякаваць Богу,**
**І срэбная, і залатая пара.**
**Яшчэ майскім мёдам гарчыш на губах,**
**І пахне каханне пралескай**
**пад снегам...**

Адам Міцкевіч пачаў адрадж... не былой велічы краю, "занядбанага між народамі", з абуджэння цікавасці да яго звычаяў, лагенд, паданняў, закансерваваных са старажытных часоў у сховах вусна-паэтычнай творчасці народа. З нябачных крыніц, патаемных глыбінь народнага жыцця б'е струмень і паэ... Уладзіміра Някляева, нашага сучас..., у творчасці якога вобразы, матывы, сюжэтныя лініі міцкевічаўскіх балад і паэм знайшлі ўсебаковае, падмуркава-генетычнае ўвасабленне. Як прыклад, паэма "Прошча" — сапраўдны сімвал малой Радзімы, мясціны надзвычайнай чысціні і харастава, носьбіт магутнай духоўнай сілы:

**На возеры тым, на блакітнай вадзе**
**Бялеюць лілеі.**
**Душа мая там, як на Божым Судзе,**
**Баліць і святлее.**

**Яе тое возера ў воды свае**
**Празрыста ўлюбіла.**
**Да дна таго возера не дастае**
**Нячыстая сіла.**

**Святлее ў тым возеры храм на гары**
**Званіцай высокай,**
**І спіць на званіцы званар да пары**
**Глыбока,**
**Глыбока.**

Напрошваецца міжволі паралель: някляеўская Прошча ў свядомасці сучаснага пакалення — увасабленне такога дарагога для кожнага беларуса пракаветнага вобраза міцкевічаўскай Свіцязі:

**Не ведаеш, — з-пад ног, можа, гэта**
**шкляная**
**Ідзе аж да неба дарога**
**Ці неба шкляное скляпенне схіляе**
**Табе аж пад самыя ногі!**
**І той, другі, бераг убачыць**
**не ў сілах —**
**З вышынямі возера зліта.**
**Нібыта вісіш ты на птахавых крылах**
**У нейкім бяздонні блакіту!**

Трэба дадаць, што лірычная гераіня У. Някляева вельмі роднасная міцкевічаўскай Свіцязянцы, дачцэ князя Тугана (паплечніка Мендога):

**Аднак вам скажу я, зусім не пачвара,**
**А проста жывая дзяўчына.**
**Шаўковыя косы, бялявая з твару,**
**А вусны яе, як маліна.**
**А словы красуні тае сінявокай**
**Прыемна, пяшчотна гучэлі:**

**І ты б, храбры, гэта з дружынай**
**адведаў,**
**Загінуў бы ў спрэчцы няроўнай,**
**Ды шчасце — тут край**
**твайго прадзеда, дзеда,**
**Ты з нашай радні, ты нам кроўны.**
**За тое, што вы акрапілі тут воды,**
**Па-боску зрабілі чын-чынам, —**
**Маімі Бог вуснамі скажа народу**
**Гісторыю гэтых глыбіняў,., —**

сваёй трапяткой мудрасцю і, бы крышталёвай мужнасцю, невынішчальнаю вераю ў людзей:

**Зноў я ўчую яе — і прымрою**
**ў абдымках Хрыста...**
**За мяне яна моліцца, просіць,**
**па мне яна плача...**

Але, калі засяродзіцца на змесце трылогіі міцкевічаўскіх паэм "Свіцязянка", "Свіцязь", "Рыбка", то, безумоўна, найбліжэй да галоўнай гераіні Красы-Мілавіцы з шматаспектнай паэмы Уладзіміра Някляева (паводле спецыфікі жанравай структуры) Крыся-Свіцязянка (паэма "Рыбка"). І гэтую блізкасць асабліва выказалі паэты праз тэму самаахвярнай любові. У Міцкевіча яна разгортваецца праз метафізічныя пераўтварэнні русалкі-дзяўчыны на ірэальна-энергетычнай мяжы жывога і адышоўшага сусветаў, бы сцвярджэннем, што матчыная любоў, мацнейшая ад смерці, як Ласка Божая, вечна жывая.

І ў някляеўскага званара-паэта найістотнейшы сэнс існавання — клопат пра Красу-Мілавіцу, містычна-касмічны змест гэтага пачуцця асабліва падкрэсліваецца праз сістэму сінтаксічных паралелізмаў.

**Ён жыў на званіцы. Цар-рыба плыла,**
**Мінаючы сеці.**
**Адна ў званара Мілавіца была,**
**Адна ў цэлым свеце.**
**Цар-рыбу, што ў Прошчы спрадвеку**
**жыла,**
**Прасіў, каб ніколі**
**Красу-Мілавіцу бяда не знайшла**
**Ні ў лесе, ні ў полі.**
**Цар-птушку, якая вяршыла палёт**
**Над Прошчай спрадвеку,**
**Схаваць Мілавіцу прасіў ад нягод,**
**Ад крыўды і здзеку.**

Безумоўна, Адам Міцкевіч — гэта гусляр і рыцар кахання, менавіта праз любоў да Марылі Верашчакі ў ім нарадзіўся паэт, пясняр ліцвінскай Беларусі, і ўся яго творчасць, па сутнасці, бясконцы дыялог са сваёй зямной Музай:

**"Прэч з воч маіх!" Паслухаю цябе я.**
**Прэч з сэрца!" Што ж, не пойдзеш**
**супраць долі.**
**"Забудзь зусім!" Не, гэта не здалее**
**Закрэсліць наша памяць аніколі.**
**Вось цень — калі ён падае здалёку,**
**То болей долы чарнатою пляміць.**
**Так воблік мой: чым далей з відаваку,**
**Тым болей ён тваю туманіць памяць.**
**Ці кнігу возьмеш ты, дзе жорсткасць**
**долі**
**Два сэрцы маладыя разлучае, —**
**Чытаючы, ты здзівішся міжволі:**
**"Усё пра нас! Хто так усё гадае!"**
**Мільгне ўначы далёка бліскавіца,**
**І ў садзе дзесь сава дзіцём заплача**
**Ды будзе ў шыбу раптам ціха біцца,**
**Уздрыгнеш ты: "Душа яго,**
**няйначай..."**
**Так, месцы, дзе гулялі мы з табою,**
**Дзе нашы мроі, слёз святло пад вязам,**
**Да скону дзён застануцца са мною,**
**Бо толькі там з табой навек мы разам.**

Каханне да туганавіцкай Музы сталася для Адама Міцкевіча "святым скрыжалем", непарыўнай лучнасцю з асноўным касмічным законам існавання Сусвету, згодна з якім толькі і ладзіцца жыццё на зямлі, — законам любові-агапіі, пра што так пісаў апостал: "Любоў дасканаліцца з намі на тое, каб мы мелі адвагу ў Дзень Суда, бо які Ён, гэткія й мы ў гэтым свеце".

(Заканчэнне будзе).

